АПБ

# Ахова птушак Бацькаўшчыны

ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

BirdLife INTERNATIONAL PARTNER

www.ptushki.org

№ 2 (45) - 2011


# Птицы и ЛЭП

Опоры линий электропередачи (ЛЭП) активно используются многими видами птиц для гнездования, а также в качестве присад для отдыха или во время охоты. В настоящее время признан тот факт, что гибель миллионов птиц в результате столкновений с проводами и поражения электрическим током становится одной из наиболее острых проблем охраны животного мира во многих регионах планеты. Особенно ощутимые потери происходят в период сезонных миграций, при этом сохранение пролетных путей птиц и мест их обитания является одним из требований международных конвенций о биологическом разнообразии и о сохранении мигрирующих видов диких животных, которые ратифицировала Республика Беларусь.

Массовая гибель птиц на ЛЭП во многих регионах становится самой большой проблемой для популяций крупных птиц, многие из которых являются глобально угрожаемыми или редкими, как, например, для филина в Норвегии или ястребиного орла в Испании. Во многих странах мира уже не один год осуществляется сбор информации по оценке конфликтной ситуации «Птицы-ЛЭП», с учетом которой принимаются решения по ее минимизации.

К сожалению, в нашей стране специальных исследований по оценке степени и масштабов воздействия ЛЭП на различные виды птиц ранее целенаправленно не проводилось, хотя вызываемые птицами короткие замыкания и аварии на ЛЭП также создают серьезные экономические проблемы, а ЛЭП становятся причиной гибели многих птиц. С 2011 г. Институтом зоологии НАН Беларуси (НПЦ по биоресурсам) совместно с АПБ при поддержке Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды начаты работы по оценке масштабов и характера воздействия воздушных ЛЭП на гнездящихся и мигрирующих птиц, а также эффективности существующих мероприятий по защите птиц от гибели на ЛЭП. Призываем помочь ученым в сборе информации по данной проблеме, сообщив об известных Вам ранее случаях гибели птиц на ЛЭП или проведя обследование ЛЭП в месте Вашего проживания. Для этого приглашаем заполнить анкету, которая распечатана на отдельном листе.

**Ирина Самусенко, научный сотрудник НПЦ НАН Беларуси по биоресурсам. Фото автора**



**Линии электропередач на 110 кВ**



**«Гребенки» – одни из приспособлений, используемых для отпугивания птиц и защиты ЛЭП**



**Коростель, погибший на ЛЭП**

# Трэці Фэст кулікоў сабраў аматараў прыроды ў старажытным Тураве



**Дырэктар АПБ Фенчук В.А. прапанаваў удзельнікам прымерыць маскі кнігаўкі**

1 траўня прайшоў ужо традыцыйны Фэст кулікоў у г. Тураве, заклiканы прыцягнуць увагу да праблемы аховы Тураўскага балоння. Па падліках спецыялістаў, на Тураўскім балонні падчас пералётаў спыняюцца каля 50 тысяч мігруючых гусей, больш за 30 тысяч качак, больш за 100 тысяч турухтанаў. Акрамя гэтага, тут гняздуюцца каля 3 тысяч водна-балотных птушак.

У гэтым годзе Фэст стаў насапраўдным народным: у свяце прымаў удзел увесь горад і госці з розных краін, і ўсе яны з радасцю прымерылі маскі птушак. У натоўпе паважна прагульваўся велізарны турухтан на хадулях, які выклікаў захапленне не толькі ў мясцовай дзятвы, але і ў дарослых. Разам з ім публіку забаўляў забіяцкі мім.

Цэнтральная плошча Турава ператварылася ў канцэртную пляцоўку, на якой прадстаўлялі свае музычныя нумары пра птушак фальклорныя калектывы Тураўшчыны і маладыя артысты з Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў. На сцэне весела пырхалі зграйкі дзяцей у птушыных касцюмах: гэта пачаўся вакальны конкурс «Кулічыныя песні». А мадэлі дэфіле «Кулічыная мода» ужо другі год прыцягваюць модніц з усёй акругі. Фальклорная група «Люташ» правяла майстар-клас па старадаўніх народных танцах.

Фэст кулікоў традыцыйна адрознівае адукацыйны аспект. У гэтым годзе ўсе жадаючыя змаглі паўдзельнічаць у творчых майстар-класах. Пад



**У натоўпе паважна шпацыраваў велізарны турухтан на хадулях, выклікаючы захапленне не толькі ў мясцовых дзяцей, але і ў сталых жыхароў**

кіраўніцтвам мастака Алеся Квяткоўскага юныя мастакі малявалі крэйдай птушак на плошчы Турава, а майстар па кераміцы Каласкоў Уладзімір падзяліўся сакрэтамі працы з глінай. У бібліятэцы адбыўся паказ відэафільма пра Тураўскае балонне, школьнікі сустрэліся з вядомым дзіцячым пісьменнікам Уладзімірам Ягоўдзікам.

Важнай часткай праграмы Фэсту стала прысвечаная Рамсарскім угоддзям прэс-канферэнцыя, на якую прыехалі журналісты нацыянальных і найбуйнейшых еўрапейскіх спецыялізаваных выданняў. Прадстаўнік Каралеўскага таварыства абароны птушак Вялікабрытаніі Норберт Шафер адзначыў, што Тураўскае балонне стаіць нароўні з іншымі выключнымі еўрапейскімі месцамі для назірання за птушкамі.

**Лідзія Пшаніцына, АПБ**
**Фота аўтара**

# Навіны праектаў

## Адкрылася фотавыстава "У царстве Выганашчанскага арлана"



У канцы красавіка ў Целяханскай сярэдняй школе (Івацэвіцкі раён, Брэсцкая вобласць) адбылося адкрыццё фотавыставы «У царстве Выганашчанскага арлана". Яна стала вынікам пяці семінараў-фотапленэраў, арганізаваных АПБ у лютым і сакавіку па праекце "Акцыя для Арлоў і Людзей. Захаванне рэдкіх птушак Выганашчанскага раёна сіламі грамадскасці", які быў падтрыманы праграмай малых грантаў пасольства ЗША.

Арганізатарамі і ўдзельнікамі семінараў-фотапленэраў для выставы былі адабраны сорак лепшых фотаздымкаў. Сюды ўвайшлі кадры многіх птушак і звяроў, асаблівае месца заняў арлан-белахвост, які заслужана носіць тытул Выгашчанскага цара птушак.

У Целяханах быў дадзены старт падарожжу выставы па школах регіёна, каб паказаць унікальную прыроду дзікіх Выгашчанскіх балот шырокай аўдыторыі гледачоў. Толькі за травень і чэрвень выстава абдудзецца ў дзевяці школах, і некалькі тысяч навучэнцаў і іх бацькоў змогуць знайсці для сябе фотаздымак, ля якога затрымаюцца крыху даўжэй. Адны фотаздымкі з вывавамі звяроў і птушак выклікалі замілаванне, іншыя, што адлюстроўваюць жыццё дзікай прыроды "не з вокладкі", выклікалі непрыязнасць з першага погляду. Любыя эмоцыі сведчаць пра тое, што кадры дзікай прыроды закранапі душу гледачоў і пакідалі глыбокія ўражанні.

**Мы выказваем шчырую падзяку ўсім удзельнікам фотапленэраў за мужнасць і цярпенне ў фотапаляванні.**

**Арганізацыя фотавыставы "У царстве Выганашчанскага арлана" магчымая ў аддзяленнях АПБ і школах з клубамі "Крылаты дазор" у новым навучальным годзе 2011/2012. Пакідаць папярэднія заяўкі можна Вользе Лукшыц (8-017-263-06-13 ці lukshyts@ptushki.org).**

**Вольга Лукшыц, каардынатар праекта**
**Фота аўтара**

## День птиц - 2011



**Свой синичник изготовил и заместитель министра природных ресурсов и охраны окружающей среды Анатолий Лис**

Совместной пресс-конференцией Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды Республики Беларусь, Национальной академии наук и АПБ был отмечен Международный день птиц. Традиция празднования этой даты установилась 1 апреля 1906 года, когда была подписана Всемирная конвенция об охране птиц, полезных в сельском хозяйстве. С тех пор «птичий» день – один из самых привечаемых праздников в календаре.

Именно на пресс-конференции было объявлено о еще одном важном шаге на пути к запрету весенней охоты на водно-болотных птиц в Республике Беларусь. Как раз к началу сезона весенней охоты вышло постановление Минприроды о запрете охоты на гуся белолобого, гуся-гуменника, гуся серого, канадскую казарку и крякву в республиканских ландшафтных заказниках «Ельня», «Котра», «Ольманские болота», «Освейский» и «Простырь». Эти территории являются местами большого скопления водоплавающих пернатых и объявлены территориями, важными для птиц (ТВП) международного значения. По словам заместителя министра Анатолия Лиса, это только первые шаги и Минприроды намерено продолжать работу по минимизации весенней охоты.

Для АПБ пресс-конференция стала еще одной возможностью привлечь внимание к вопросам сохранения водно-болотных угодий. Ведь большая часть белорусских видов птиц с неблагоприятным природоохранным статусом относятся к видам, населяющим именно такие угодья. К водно-болотным угодьям относятся и 84% белорусских ТВП.

Как отметил в своем выступлении директор АПБ Виктор Фенчук, к сожалению, состояние именно тех территорий, которыми Беларусь гордится, и тех птиц, которые делают Беларусь знаменитой, сегодня вызывает у общественности особое опасение. В первую очередь – из-за планов по дальнейшему увеличению добычи торфа и строительству новых торфопредприятий.

После пресс-конференции все ее члены поучаствовали в изготовлении синичников, которые сразу же были развешены перед Министерством природных ресурсов.

**Пресс-служба АПБ**
**Фото В.Фенчука**

## Фотовыставка «Беларусь. Климат. Болота»



16 мая в Литературном музее Максима Богдановича открылась фотовыставка «Беларусь. Климат. Болота», посвященная Международному дню климата.

На выставке представлены новые работы белорусских фотографов, сделанные в заказнике "Споровский" на восстановленных болотах "Гричино-Старобинское", "Бартениха", в Березинском биосферном заповеднике и в Беловежской пуще. Выставка организована в рамках проекта «Климат и биоразнообразие» при поддержке Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды.

Менеджер проекта Ольга Чабровская подчеркнула, что целью открытия фотовыставки в Международный день климата является привлечение внимания широкой общественности к роли белорусских болот в поддержании уникального биологического разнообразия и сохранении климата.

А.Н. Рачевский – начальник отдела Международного сотрудничества Министерства природных ресурсов и охраны окружающей среды РБ – подчеркнул, что реализация проекта «Климат и биоразнообразие» внесет вклад в выполнение Беларусью международных обязательств по трем глобальным экологическим конвенциям: о биоразнообразии, изменении климата, борьбе с опустыниванием и деградацией земель; а практический опыт по повторному заболачиванию выработанных торфяников и нарушенных болот будет востребован как в Беларуси, так и в странах Западной Европы.

«Беларусь. Климат. Болота» – необычный фотолитературный проект, часть работ которого уже была представлена на виртуальной выставке «Болото. Необычное» (портал TUT.by). На открытии выставки в Литературном музее также звучала поэзия Максима Богдановича, посетители смогли увидеть необычную инсталляцию – болото с утонувшим в трясине фотоаппаратом, а по залу прогуливалась загадочная русалка.

**Лидия Пшеницына, АПБ.**
**Фота автора**

# Пустельга снова он-лайн!

**В середине апреля Гродненское областное и Западно-Полесское региональное отделения АПБ второй раз запустили интернет-проект «Сокол-пустельга он-лайн». За парой птиц, что загнездилась на многоэтажном жилом доме в г. Бресте, посредством установленной вэб-камеры уже наблюдали люди из 130 стран мира!**



В настоящий момент в гнезде брестских пустельг уже вылупилось 5 птенцов, которые в конце июня научатся летать самостоятельно.

А пока беззаботная на первый взгляд жизнь птиц привлекает внимание людей со всего мира, брестские пустельги столкнулись с серьезными проблемами, в решении которых может помочь любой желающий!

Не каждая пара пустельг находит для гнезда просторную и уютную нишу. Часто ими становятся узкие вентиляционные отверстия, в которые не может полностью поместиться даже одна птица. Подрастающие птенцы толпятся в гнезде и выталкивают друг друга... Часто птенцы выпадают не оперившись и не умея летать. Такое падение, как правило, бывает для них роковым.

Чтобы помочь птицам, Вы можете перечислить благотворительное пожертвование на закупку материалов для искусственных гнездовий и проведения работ по обустройству гнездовых ниш в городе. За дополнительной информацией обращайтесь по электронному адресу kitel@ptushki.org.

Давайте вместе сохраним звонких соколов белорусского города! Приятного всем просмотра!

**Денис Кітель, специалист по природоохранным вопросам**

**Фото В. Чеберкуса**

# Навіны аддзяленняў

## Вучоныя будучага



Вера Парватава вучыцца ў спецыяліста АПБ Анет Ціле

Важным кампанентам працы АПБ з'яўляецца выхаванне і адукацыя падрастаючага пакалення. Гэтая праца вядзецца рознымі шляхамі, і адзін з іх – удзел дзяцей у праектах АПБ пад кіраўніцтвам навуковых кансультантаў. Выконваючы нескладаныя заданні, школьнікі аказваюць пасільную дапамогу навукоўцам і ў той жа час атрымліваюць веды аб навакольнай прыродзе, набываюць новыя навыкі. Канкрэтным таму прыкладам з'яўляецца ўдзел старшакласнікаў з в. Здзітава Бярозаўскага раёна і г. Барысава ў праекце па аднаўленню тарфянікаў.

Гэтая сумесная праца прыносіць істотныя вынікі. Зробленыя пад кіраўніцтвам спецыялістаў АПБ навукова-даследчыя работы цікавыя для навукоўцаў не толькі нашай краіны, але і еўрапейскіх. Адна з іх – «Ацэнка эмісіі парніковых газаў на асушаных і другасна забалочаных тарфяніках ў пойме р. Гайна». Праца выканана Верай Парватавай, выхаванкай Барысаўскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва, пад кіраўніцтвам Анэт Ціле (спецыяліста-балотаведа АПБ), Сямёна Левага (спецыяліста АПБ па прыродаахоўным пытанням) і Анжэлы Журавель (дырэктара ДУА «Барысаўскі экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва»). У межах гэтай працы вывучаўся ўзровень грунтавых вод на трансфармаваных тарфяніках ў пойме р. Гайна (Барысаўскі р-н, Мінская вобл.), зроблена апісанне расліннасці і ацэнены выкіды парніковых газаў на дадзенай тэрыторыі. Гэтая праца ўжо з'яўляецца прызёрам шматлікіх навукова-даследчых конкурсаў для школьнікаў. Так, напрыклад, Вера перамагла на нацыянальным этапе Міжнароднага юніёрскага воднага конкурсу Stockholm Junior Water Prize і будзе прадстаўляць сваю працу ў фінале конкурсу, які пройдзе ў жніўні ў сталіцы Швецыі – Стакгольме, а таксама на нацыянальным этапе Міжнароднага конкурсу «Энергія і асяроддзе пражывання», фінал якога адбудзецца ў Нарвегіі.

**Сямён Левы, спецыяліст АПБ па прыродаахоўных пытаннях**
**Фота аўтара**

## Фэст "Дзень Зямлі" ў Барысаве



Дыплом першай ступені ў мастацкім конкурсе. Кузуро Вікторыя, 14 гадоў

23 красавіка Барысаўскім экалагічным цэнтрам дзяцей і юнацтва на базе ДУА «АСШ №7 г. Барысава» быў праведзены фэст «Дзень Зямлі – 2011». Актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні фэсту прыняла Барысаўскае раённае аддзяленне АПБ. На гэтым мерапрыемстве былі ўзнагароджаны прызёры конкурсаў, якія праводзіліся ў межах нацыянальнай кампаніі «Вялікі краншнэп – птушка 2011 года».

Школьнікі Барысаўшчыны прынялі актыўны ўдзел ва ўсіх конкурсах. І, можна сказаць, гэта стала ўжо для іх добрай штогадовай традыцыяй.

На літаратурны конкурс прыйшло больш 50 твораў самых розных жанраў. Сярод іх былі не толькі выдатныя апавяданні і казкі, але і прыгожыя вершы.

Больш 200 малюнкаў, плакатаў і вырабаў паступіла на мастацкі конкурс. Усе ўдзельнікі фэсту змаглі ўбачыць працы на выставе, якая была арганізавана на базе школы.

Паспрабаваць свае сілы ў конкурсах мелі магчымасць і дарослыя. Настаўнікі падрыхтавалі два дзесяткі метадычных распрацовак розных мерапрыемстваў: конкурсы, віктарыны, класныя гадзіны, масавыя мерапрыемствы і інш.

У межах фэсту былі праведзены конкурсы «Зялёная планета» (для старшакласнікаў) і «Хто ў сад, а хто ў агарод» (для малодшых школьнікаў), дзе дзеці дэманстравалі свае веды ў галіне арганічнай сельскай гаспадаркі і рацыянальнага прыродакарыстання, што асабліва актуальна напярэдадні Дня Зямлі.

Дзякуючы дапамозе цэнтральнага офіса АПБ, Міністэрства замежных спраў Каралеўства Нідэрланды (MATRA), дзяржаўнага мэтавага фонду аховы прыроды Барысаўскага райвыканкама, усе ўдзельнікі конкурсаў атрымалі дыпломы і прызы.

**Анжэла Журавель,**
**Барысаўскае раённае аддзяленне АПБ**

## Тыдзень птушак у Мінску



Выстава домікаў для птушак

У гэтым годзе Тыдзень Птушак у Мінску прайшоў як ніколі актыўна. Адным з самых цікавых мерапрыемстваў кампаніі стаў адкрыты экалагічны конкурс для ўстаноў адукацыі г. Мінска "Хатка для крылатага сябра". На конкурс паступіла каля 100 прац. Самымі актыўнымі аказаліся навучэнцы 19-й гімназіі, якія прадставілі на конкурс 26 хатак: сінічнікаў, хатак для сітавак і рудахвостак. У конкурсе прынялі таксама ўдзел і вучні з Міёр, Оршы і іншых гарадоў Беларусі.

6 красавіка ў Цэнтральным дзіцячым парку ім. Максіма Горкага прайшла акцыя "Пасяліце ў хаце радасць!". Арганізавалі акцыю ГУА "Гімназія №19 г. Мінска", ГУА "Станькоўскі дзіцячы дом", рэдакцыя часопіса "Сад маёй мары". Ганаровымі гасцямі былі людзі з "птушынымі" прозвішчамі. У межах акцыі на адведзенай тэрыторыі парка былі развешаны штучныя гнёзды.

11 красавіка прайшла акцыя "Падары птушкам шанец". Вучні гімназіі №19 наведалі тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Першамайскага раёна г. Мінска. Сумесна з пажылымі людзьмі на базе цэнтра было развешана больш за 10 хатак для птушак.

Акцыя "Табе, наш Фрунзенскі раён" прайшла 28 красавіка на базе парка 60-годдзя Вялікага Кастрычніка. На сваце былі падведзены вынікі адкрытага экалагічнага конкурса для ўстаноў адукацыі г. Мінска "Хатка для птушынага сябра", уручаны дыпломы пераможцам. Узнагароды былі ўручаны ад Адміністрацыі Фрунзенскага раёна і ад грамадскай арганізацыі АПБ. Прызы забяспечыла ТАА "Садовая калекцыя". Кульмінацыяй мерапрыемства стала развешванне хатак для птушак на тэрыторыі парка.

**Святлана Якубоўская, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення АПБ**
**Фота аўтара**

## Удзельнікі семінара-лагера «Начныя жыхары ляСОЎ» пакарылі самае дзікае балота Беларусі



Удзельнік лагера на балоце Дзікае

Правядзенне на самым пачатку красавіка семінара-лагера з рамантычнай назвай, якая крыху заваражвае, "Начныя жыхары ляСОЎ" ўжо сталася прыемнай традыцыяй.

Кожны з пяці дзён, праведзеных у маленькай глухой вёсачцы Залессе ў ваколіцах Нацыянальнага парка "Белавежская пушча" і балота Дзікае – без камунікацый, з дрэннай мабільнай сувяззю і абсалютнай адсутнасцю крам, быў насычаны падзеямі.

Расстаўленыя па кустах павуцінневыя сеткі лавілі мігруючых вераб'іных птушак, якія тут жа кальцаваліся. У любы час можна было ўзяць пілу, малаток, цвікі і зрабіць адну з прапанаваных хатак для птушак. А паколькі брэсцкая група АПБ даўно славіцца сваімі поспехамі ў біятэхніцы для савіных, дык і хаткі рабіліся ў асноўным касматаногаму і вераб'інаму сычу. Дарэчы, менавіта ў гэтых мясцінах у 2008 г. упершыню ў Беларусі касматаногі сыч вывеў птушанят у штучным гнездзішчы.

Многія ўдзельнікі летніка прыехалі, каб убачыць адну з самых рэдкіх і цікавых соў – барадатую няясыць, і не расчараваліся. У першую ж ноч дзве барадатыя няясыці пачалі адклікацца на магнітафонную правакацыю. А яшчэ праз дзень на стымуляцыю голасам прыляцеў адзінокі самец, усеўся на верхавіну дрэва акурат над удзельнікамі лагера і гучна і ўпэўнена вакалізаваў, абазначаючы тым самым сваю тэрыторыю.

Што датычыцца штучных хатак, зробленых па ўсіх правілах, то ў хуткім часе яны створаць мадэльную пляцоўку ідэальнай біятэхнікі, якую змогуць паглядзець усе жадаючыя, што завітаюць у Залессе.

**Дзяніс Кіцель,спецыяліст па прыродаахоўных пытаннях**
**Фота аўтара**

# Зеленые легкие Европы
## планируется принести в жертву торфяной промышленности



Единственный в своем роде памятник добыче торфа – утонувший экскаватор



А.В. Козулин проводит экскурсию по болоту Докудовское для участников семинара

**Болота Беларуси, которые часто называют Зелеными легкими Европы, сегодня оказались в опасности: на рассмотрение правительству представлен вопрос о дальнейшем увеличении добычи торфа и строительстве новых торфопредприятий.**

Для обсуждения этой острой проблемы в День Земли (22 апреля) на базе республиканского заказника «Докудовский» был проведен семинар «Сохранение и устойчивое использование болотных угодий Республики Беларусь».

Как отметил А.В. Козулин, ведущий научный сотрудник ГНПО «НПЦ по биоресурсам НАН Беларуси», речь фактически идет о планах по строительству новых брикетных заводов на торфяных месторождениях на месте особо охраняемых природных территорий — республиканских и местных заказников «Выгонощанское», «Докудовский», «Ветеревичский», Национального парка «Припятский».

Планируемое расширение торфодобычи окажет негативное влияние на климат и сохранение биологического разнообразия Беларуси и Европы в целом. Также это может негативно отразиться на имидже Беларуси и привести к утрате доверия со стороны международных фондов, финансирующих природоохранные проекты. Кроме того, расширение добычи торфа может поставить под угрозу возможность для Беларуси торговать добровольными сокращениями выбросов парниковых газов, полученных в результате восстановления и сохранения болот.

По мнению многих экономистов и известных экологов, сохранившиеся крупные естественные болота недопустимо использовать для добычи торфа еще и потому, что эти торфяные месторождения обеспечивают стратегический запас относительно быстро извлекаемых ресурсов на случай экстремальных событий.

**Виктор Фенчук, директор АПБ**
**Фото автора**

## ВЫДЕРЖКИ ИЗ ОБРАЩЕНИЯ ФОРУМА ЭКОЛОГИЧЕСКИХ НЕПРАВИТЕЛЬСТВЕННЫХ ОРГАНИЗАЦИЙ БЕЛАРУСИ

"Форум экологических организаций Беларуси выражает решительный протест планам по уничтожению последних крупнейших болотных экосистем, что неминуемо приведет к масштабным негативным экологическим последствиям для всей Беларуси, окажет негативное влияние на здоровье нации, а также будет иметь отрицательные последствия в глобальном масштабе".

"Нецелесообразно вкладывать значительные финансовые средства в развитие торфодобывающей отрасли, зная, что сырьевые ресурсы торфа будут исчерпаны через 20-30 лет. Кроме этого, на фоне негативных процессов изменения климата, народное хозяйство и природные комплексы Беларуси уже испытывают отрицательные последствия нерациональных осушительных мелиораций минувшего 20-го века".

"За период существования независимого Белорусского государства на его территории создана близкая к оптимальной система особо охраняемых природных территорий, представляющая собой важнейший элемент национального природного наследия. Готовящееся к принятию решение приведёт к его уничтожению и деградации, что, по нашему мнению, абсолютно недопустимо".

"Приоритетными направлениями должны стать экологически чистые способы получения энергии из возобновляемых источников (древесина, растительная биомасса), а также энергия ветра, солнца и воды, и именно эти новые технологии имеет смысл поддерживать государству. Объемы использования таких источников в мире быстро растут в связи с развитием новых технологий и неограниченностью ресурсов".

"Для сохранения торфодобывающей отрасли необходимо организовать поддержку действующих торфопредприятий путем отвода для добычи малопродуктивных или заброшенных торфяных земель, неэффективно использующихся в сельском хозяйстве, с постепенной переориентацией заводов на производство путем глубокой переработки торфа большого ассортимента новых наукоемких материалов и продуктов, а также изменения территориальной специализации торфяных регионов страны в сторону их устойчивого развития и социальной защищённости населения. Научно доказано, что рациональное использование ягодных ресурсов, заготовка лекарственных растений, а также грамотное использование рекреационных и средообразующих свойств естественных болот в десятки раз экономически выгоднее, чем осушение и добыча торфа".

## 3 – 5 июня прошел Форум общественных экологических организаций Беларуси – 2011



Пленарное заседание участников форума. Фото Ю.Коледы

С 3 по 5 июня в Березинском биосферном заповеднике прошел Форум общественных экологических организаций Беларуси. В этом году участие в обсуждении актуальных вопросов экологии и охраны окружающей среды приняли более 120 представителей из Беларуси и стран зарубежья. Организаторами Форума являются ведущие белорусские экологические организации: «Зелёная сеть», «Ахова птушак Бацькаўшчыны», «Живое партнерство», «Центр экологических решений», «Экодом» и «Экопроект Партнерство».

В этом году на повестку Форума были вынесены вопросы сохранения биоразнообразия, участия общественности в принятии экологических решений, взаимосвязи здоровья и окружающей среды. Также обсуждались возможности и перспективы зеленой экономики в Беларуси.

Программа Форума была очень насыщенной: был проведён ряд пленарных заседаний и круглых столов, с докладами выступили белорусские и зарубежные эксперты. Участники Форума поработали в группах, поучаствовали в мастер-классах, примерили на себя роль сторон-участниц переговоров по Киотскому протоколу, узнали, как общаться с летучими мышами, и даже попробовали себя в белорусских и зарубежных народных танцах.

Оргкомитет Форума вручил Дипломы экологическим активистам:

- Игорю Кутоловскому, члену ОО «Экодом», товарищества «Зеленая сеть», диплом «За многолетнюю борьбу с палами»;
- Игорю Пастухову, экологу, экстремальному туристу, «За кампанию по поднятию вертолета из озера Рудаково»;
- Татьяне Новиковой, товарищество «Зеленая сеть», «За проведение первой общественной экологической экспертизы»;
- Елене Вахромеевой, Белорусское радио, «За многолетнее освещение экологических событий»;
- Елене Бутковской, «За кампанию по защите прав на здоровье и здоровую окружающую среду жителей п. Дружный Пуховичского района»;
- Гродненскому областному, Западно-Полесскому региональному и Брестскому областному отделениям АПБ "За проект "Пустельга-онлайн";
- Георгию Козулько, «За многолетнюю кампанию по защите Беловежской пущи».

Также был вручен и антидиплом за антиэкологический проект года. Он был присужден академику Ивану Лиштвану "за разработку и активное лоббирование масштабной программы по осушению белорусских болот". Антидиплом будет направлен обладателю по почте.

На Форуме были приняты: резолюция по сохранению биологического разнообразия; призывы к правительствам других государств по безопасности детских игрушек; декларация по химической безопасности; призыв по отказу от строительства АЭС в Беларуси; рекомендации по реализации Конвенции по охране и использованию трансграничных водотоков и международных озер в Республике Беларусь.

Тексты резолюции, докладов и выступлений вы можете посмотреть на сайте Форума www.greenforumby.org.

# Чэшскія арнітолагі просяць аб дапамозе



Акальцаваны грак. Фота І.Чэсака

На тэрыторыі горада Пардубіцэ (Усходняя Чэхія) на працягу доўгіх гадоў знаходзіцца адно з самых вялікіх у Чэхіі месцаў зімоўкі гракоў і кавак. Штогод тут зімуюць каля 40 тысяч гэтых птушак. Адным з метадаў даследавання міграцый, працягласці жыцця птушак і іншых цікавых момантаў з'яўляецца іх кальцаванне.

За 28 год атрымалася акальцаваць ужо 17 573 гракоў. За гэты час была атрымана інфармацыя аб 117 птушках з замежжа Чэхіі (0,7% ад колькасці акальцаваных), у тым ліку – аб 22 птушках з Беларусі.

Каб павялічыць колькасць назіранняў за акальцаванымі птушакамі, з 2010 году ў дадатак да звычайных металічных арніталагічных кольцаў пачалося кальцаванне гракоў жоўтымі пластыкавымі кольцамі, на якіх нанесена камбінацыя з чорнай літары і лічбаў; а кальцаванне кавак – з дапамогай пластыкавых кольцаў зялёнага колеру.

Калі Вы заўважылі птушку з такімі кольцамі, дакладна запішыце усе бачныя літары і лічбы. Калі ёсць магчымасць, варта таксама зрабіць здымак кольцаў. Усе дадзеныя Вы можаце перадаць у Беларускі цэнтр кальцавання птушак па тэлефоне 8-017-284-25-04 ці па электроннай пошце bym.minsk@gmail.com.

Калі Вы толькі заўважылі, што грак ці каўка маюць каляровае пластыкавае кальцо, але ў Вас не было магчымасці прачытаць ці сфатаграфаваць яго на птушцы, калі ласка, патэлефануйце ці напішыце дату і месца, дзе Вы бачылі птушку, Дзмітрыю Вінчэўскаму (+37533-688-75-89 МТС, эл. пошта harrier@tut.by), і арнітолагі пастараюцца прыехаць і прачытаць інфармацыю на кальцы з дапамогай адмысловай оптыкі.

Уся атрыманая інфармацыя будзе перададзеная нашым чэшскім калегам, а людзі, якія дапамаглі яе атрымаць, даведаюцца, калі былі акальцаваныя "іх" птушкі, на якой адлегласці ад месца кальцавання яны апынуліся і іншыя цікавыя падрабязнасці.

**Паводле сайта www.birdwatch.by**

# Проект «Слышишь, как они поют?»




Проект «Слышишь, как они поют?», созданный совместными усилиями волонтеров из АПБ и Молодежным образовательным центром «Фиальта», направлен на привлечение внимания молодых людей к существующим проблемам охраны птиц и окружающей среды, а также к возможным путям их решения.

На протяжении двух месяцев участники обменивались идеями, информацией, делали фотографии, отражающие опасные для окружающей среды, птиц и, как следствие, для человека явления. Фотосъёмка должна была послужить толчком к тому, чтобы люди начали более осознанно смотреть на окружающий мир, увидели те вещи, на которые раньше они не обращали внимания. В дальнейшем эти фотографии стали источником вдохновения для арт-проектов, в основу которых были положены оригинальные авторские идеи. Всего было создано девять замечательных работ. Вот только некоторые из них:

- звуковой проект «На самом ли деле ты наслаждаешься тишиной?» (Вася Панкратов);
- анимация «Кто такие эти птицы?» (Лилия Горбачёва, Анна Сагальчик);
- «Создавай открытки, люби птиц» (Вера Рыбкина);
- стихотворения (Надежда Клементёнок) и другие.

В широкую же аудиторию идеи этих работ донесла выставка, которая проходила 22 мая в Республиканском экологическом центре детей и юношества.

Здесь, кроме знакомства с самими проектами, у посетителей была возможность послушать песни под гитару, игру на барабане и даже поиграть в «Крокодила», отгадывая названия птиц по теням.

**Никола Шпитцер, волонтёр АПБ**
**Фото автора**

# Белорусские птицы покоряют Москву!



Дмитрий Якубович на фоне своей работы. Фото Е. Поличейко

Выставка фотоконкурса «Золотая черепаха-2010» с успехом проходит в Москве. О популярности этой выставки у жителей и гостей российской столицы говорят ее продолжительность (почти месяц), очереди, выстраивающиеся за билетами, несмотря на их стоимость (15000 белорусских рублей), и огромное количество посетителей.

В этом году четыре снимка, сделанные в Беларуси и демонстрирующие красоту белорусских птиц и природы, приковывают к себе всеобщее внимание. Примечательно, что лучшим снимком в номинации «Птицы», был признан кадр токующего на рассвете глухаря, снятого литовским фотографом Кестутисом Чепенасом в Витебской области.

Значительное место в экспозиции отведено трем фотографиям члена АПБ Дмитрия Якубовича: это фото усатой синицы в зарослях и мородунки на закате (номинация «Птицы»), а также фото под названием «Спокойствие зимнего заката», изображающее одинокого лебедя на зимнем пруду (номинация «Гармония жизни»).

Поздравляем авторов и желаем им дальнейших успехов и редких кадров, которые бы доносили красоту и уникальность белорусской природы до мирового зрителя!

**Ольга Лукшиц, специалист по природоохранным вопросам**

# Первая встреча Европейского партнерства BirdLife в новом составе

В Будапеште (Венгрия) 14-16 апреля прошла региональная встреча BirdLife International (Международного союза охраны птиц). Партнерство BirdLife International объединяет свыше 100 природоохранных организаций и является крупнейшим в мире природоохранным партнерством. АПБ – партнер BirdLife International с 2005 года.

В 2011 году встреча Европейского партнерства прошла в новом формате: частью партнерства стали присоединенные к нему в качестве аффилированных членов Казахстанская ассоциация сохранения биоразнообразия (АСБК), Узбекское общество защиты птиц и НАБУ-Кыргызстан. А само партнерство стало называться Европейское и Центральноазиатское, или European and Central Asian Partnership.

В общей сложности во встрече участвовали делегации от организаций-партнеров из 37 стран. Основной задачей встречи была разработка стратегии деятельности для Европейского и Центральноазиатского партнерства на 2013 и последующие годы, а также обсуждение возможных изменений в глобальной стратегии BirdLife. Состоялись выборы трех новых членов Совета Европейского и Центральноазиатского партнерства. Ими стали Изабелла Флор (ОТОП, Польша), Елена Д'Андреа (LIPU) и Ксенофон Каппас (Греческое орнитологическое общество).

АПБ на встрече представлял ее директор Виктор Фенчук. В рамках встречи АПБ была организована тематическая рабочая группа, посвященная проблемам восстановления нарушенных торфяников и возможности использования белорусского опыта в других европейских странах.

**Виктор Фенчук, директор АПБ**

## Не забудзьце прыняць удзел

### Чэмпіянат па спартыўнай арніталогіі



**Каманда-пераможца леташняга чэмпіянату атрымлівае ўзнагароду на З'ездзе АПБ. Фота С. Зуёнка**

Запрашаем прыняць удзел у VIII чэмпіянаце па спартыўнай арніталогіі. Ён традыцыйна адбудзецца ў першую суботу восені (3 верасня). Але на гэты раз удзельнікі будуць назіраць за птушкамі не 9 гадзін, як раней, а 12 (з 6.00 да 18.00).

Удзел у чэмпіянаце могуць прыняць усе ахвотнікі, у тым ліку і грамадзяне замежных краін. Для гэтага ў сакратарыят АПБ трэба падаць заяўку (па тэлефонах 017-263-06-13, 029-223-06-13 МТС, 029-101-68-87 velcom альбо электроннай поштай info@ptushki.org), у якой будуць пазначаны назва каманды, яе склад (4 чалавекі: з іх 2 (як мінімум) павінны мець больш за 18 гадоў), месца старту і нумар тэлефона для сувязі. Апошні тэрмін падачы заявак – 1 верасня 2010 г. 2 верасня ўдзельнікі будуць мець магчымасць унесці карэктывы ў заяўкі.

З падрабязнымі правіламі правядзення чэмпіянату вы можаце пазнаёміцца на нашым сайце ("Правілы чэмпіянату па спартыўнай арніталогіі") альбо ў сакратарыяце.

## Восеньскія дні назірання за птушкамі

Назіранні за птушкамі ў восеньскія дні, правядзенне самых простых падлікаў птушак у сваёй мясцовасці – усё гэта з'яўляецца чынным удзелам у масавым экалагічным мерапрыемстве еўрапейскага маштабу. Для ўдзелу неабходна 1-2 кастрычніка самастойна або з групай сяброў ці выхаванцаў выйсці на прыроду і палічыць віды птушак, а таксама іх колькасць. Усе дадзеныя неабходна запісаць у палявы дзённік, нататнік або сшытак. Пазначаецца таксама колькасць птушак, якіх не ўдалося вызначыць. Інфармацыю неабходна паведаміць у сакратарыят АПБ па тэлефоне ў Мінску (017) 263 06 13, па мабільных тэлефонах: (029) 223 06 13 (МТС), (029) 101 68 87 (Velcom), SMS-паведамленнем на кароткі нумар 0841 або па e-mail: info@ptushki.org.

Апошні дзень падачы інфармацыі – 2 кастрычніка (не пазней 16:00).

Назіранні і ўлікі можна праводзіць паўсюль, дзе жывуць птушкі. Гэта лес, луг, поле, рака альбо возера. У горадзе можна наведаць парк, сквер, фруктовы сад ці іншыя месцы і аб'екты. Калі ў адной мясцовасці праводзіцца некалькі экскурсій у адзін ці розныя дні, варта падлік птушак арганізаваць на розных маршрутах: наведванне адных і тых жа месцаў непажадана, бо у такім выпадку магчымы паўторны ўлік птушак, што значна пагаршае канчатковы вынік.

## Первая регистрация пестроносой крачки в Беларуси



**Пестроносая крачка**
**Фото с сайта www.en.wikipedia.org**

Новый для страны вид птиц – пестроносая крачка *Sterna sandvicensis* – отмечен в Беларуси. Пара птиц в брачном оперении наблюдалась 23 мая 2011 года на территории рыбхоза «Днепробугский» (Дрогичинский район, Брестская область) на песчаной отмели среди озерных чаек, белокрылых, малых и речных крачек. Новый вид крачек был отмечен голландскими орнитологами и специалистами общественной организации «Ахова птушак Бацькаўшчыны», проводящими мониторинг вертлявой камышевки на расположенном рядом болоте «Званец».

Территория рыбхоза «Днепробугский» в орнитологическом плане очень интересна: ранее здесь отмечался целый ряд редких видов (например, колпица). А всего днём раньше на этом же пруду наблюдали трех круглоносых плавунчиков.

Пестроносая крачка несколько крупнее обычной в Беларуси речной крачки (размах крыльев – 88-105 сантиметров). Основной ареал — морские побережья Балтийского моря, Атлантического океана, а также побережья Средиземноморского и даже Каспийского морей. Отличительные особенности пестроносой крачки в брачном оперении – хохолок на голове и темный клюв с желтоватым окончанием, за который птица и получила свое название.

Регистрация пестроносой крачки еще будет рассматриваться на заседании Белорусской орнитофаунистической комиссии, после чего этот вид может быть официально включен в список фауны Республики Беларусь. Однако уже собранные свидетельства (в том числе и фотографии пестроносой крачки) говорят в пользу её правильного определения.

**Святослав Волосюк,**
**заместитель директора по природоохранным вопросам**

## Примите участие в проекте «Птицы и Люди»



**Кукушка обыкновенная.**
**Фото с сайта www.en.wikipedia.org**

Кембриджский секретариат BirdLife International реализует культурный проект под названием «Птицы и Люди». Британский писатель Марк Кокер и фотограф Девид Типлинг собирают информацию о том, как в культуре разных стран отображаются взаимоотношения птиц и людей. В 2005 г. в рамках данного проекта уже была опубликована книга «Birds Britannica», в которую вошло 380 историй о птицах и людях из 60 стран. Подробнее о ней можно узнать на сайте www.birdsandpeople.org (англоязычный сайт).

Сейчас авторы собирают информацию о кукушках. Этих птиц хорошо знают во многих странах мира. Наверняка, и в нашей культуре о них также найдутся упоминания. Это может быть фольклор (сказки, легенды, традиции), современное искусство или же рассказы об интересных встречах человека с этой птицей.

Присылайте свои истории до середины июля. Тексты должны быть краткими (около 300 слов) и желательно на английском языке (принимаются также и работы на белорусском или русском языках).

За подробной информацией обращайтесь в секретариат АПБ.

**Работы высылайте по адресу: info@ptushki.org или а/я 306 Минск 220050.**

## Прэмія імя Канстанціна Тызенгаўза



Прэмію могуць атрымаць студэнты і магістранты ВНУ Беларусі ці замежжа за дасягненні ў вывучэнні і/ці ахове птушак Беларусі. Адна асоба можа быць узнагароджана прэміяй некалькі разоў. Мэта прысуджэння прэміі – стымуляванне моладзі да вывучэння і аховы птушак на навуковай аснове.

Заяўка на атрыманне прэміі падаецца да 1 ліпеня бягучага года. Неабходна, каб адпаведны статус кандыдат меў як мінімум на 1 мая года падачы заяўкі. Заяўка падаецца на адрас Камітэта прэміі АПБ імя К. Тызенгаўза Дзмітрыя Вінчэўскага – harrier@tut.by – у свабоднай форме (фармат .doc альбо .pdf) з пералікам прац саіскальніка.

Да заяўкі павінны быць прыкладзены апублікаваныя ці прынятыя да публікацыі навуковыя працы (артыкулы, тэзісы, матэрыялы канферэнцый) і/ці дыпломная (магістэрская) праца, якія сведчаць пра значныя дасягненні саіскальніка ў вывучэнні і/або ахове птушак.

Да 15 верасня 2011 г. Камітэтам будзе выбраны лаўрэат прэміі, якую ён атрымае на чарговым з'ездзе АПБ у пачатку 2012 г. Прэмія ўяўляе сабой памятны знак з выявай Канстанціна Тызенгаўза і грашовую ўзнагароду, памер якой вызначае ЦС АПБ.

### Выйшаў 10-ты том навуковага бюлетэня «Subbuteo»




Выйшаў новы нумар навуковага арніталагічнага бюлетэня «Subbuteo». Яго можна спампаваць у электронным выглядзе на нашым сайце ў раздзеле Інфацэнтр/Медыятэка (3,5 Mb).

Ахова птушак Бацькаўшчыны
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 2 (45) - 2011

АПБ з'яўляецца нацыянальным партнёрам BirdLife International, глабальнай асацыяцыі прыродаахоўных арганізацый

(с) АПБ, 2011 Інфармацыйны бюлетэнь
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
Галоўны рэдактар: Фянчук Віктар Аляксандравіч
Рэдакцыйная рада:
Кіцель Дзяніс Аляксандравіч
Левы Сямён Васільевіч
Лукшыц Вольга Уладзіміраўна
Ціхно Кацярына Валер'еўна
Шайкін Руслан Валянцінавіч
Вёрстка: Гупянец Зміцер

№ 2, 2011 год
Рэгістрацыйны №726
ад 12.10.2009 г.
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Наш адрас:
ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны",
вул. Макаёнка, 8-313, 220114,
Мінск Беларусь
Тэл. (017) 263 01 30,
Факс (017) 263 06 13
(029) 223 06 13 МТС
(029) 101 68 87 velcom

E-mail: info@ptushki.org
www.ptushki.org
Для карэспандэнцыі
а/с 306, Мінск, 220050, Беларусь

Дзейнасць ГА "Ахова птушак Бацькаўшчыны" падтрымліваецца Каралеўскім Таварыствам Абароны Птушак (RSPB), партнёрам BirdLife International у Вялікабрытаніі.

Надрукавана ў друкарні
УП "Данарыт".
Ліцэнзія ЛП № 02330/0494183 ад 03.04.2009.
Наклад 1300 паас.

Замова № 1431